ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 21 (2319) 27 мая 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

## ДА 110-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Янкі МАЎРА



**Янка МАЎР сярод дзяцей.**

**(Фотарэпартаж, прысвечаны 110-й гада... з дня нараджэння пісьменніка, змешчаны на 6-й стар.).**

**Імя доктара Міадрага СІБІНАВІЧА (1937 г.н.) вядомае ў славістычных колах не толькі былой СФРЮ. Прафесар амаль з трыццацігадовым стажам, загадчык кафедры і прарэктар універсітэта, старшыня рэспубліканскай Асветнай рады, спецыяліст па гісторыі славянскіх літаратур і міжлітаратурных сувязях, шырока прызнаны тэарэтык і практык мастацкага перакладу, аўтар даследаванняў "Лермантаў у сербскай літаратуры", "Арыгінал і пераклад (Уводзіны ў гісторыю і тэорыю перакладчыцкай справы)", "Новы арыгінал", "Яўгеній Анегін" Аляксандра Пушкіна", "Паэтыка і паэзія...", адзін з заснавальнікаў і рэдактар часопіса "Літаратурная гісторыя", галоўны рэдактар часопіса "Жывыя мовы", старшыня Саюза перакладчыкаў Сербіі -- вось далёка не поўны пералік таго, чым займаўся і якія здабыткі меў гэты руплівец на ніве збліжэння культур, народаў. Таму не выпадковасць, што згаданыя інтарэсы так ці інакш вялі да нашай літаратуры. Аднак важна: гэта не дотык мімаходзь. Прафесар Сібінавіч па-сапраўднаму захапіўся перакладамі беларускай паэзіі, у выніку чаго была падрыхтавана цікавая анталогія, а да яе грунтоўны артыкул-пасляслоўе. У сувязі з вядомымі падзеямі выданне затрымліваецца. А нам тым часам не без карысці будзе знаёмства з артыкулам (які, праўда, па аб'ектыўных прычынах тут даецца ў фрагменце), прынамсі, каб ведаць прафесійны пагляд "з боку".**

**Іван ЧАРОТА.**

# БЕЛАЯ МУЗЫКА БЕЛ..РУСКАЙ ПАЭЗІІ

(...) Дзесяцім...ённы народ, беларусы на ...ягу стагоддзяў былі пад ...мі колькасна і арганізацыйна моцных структур -- рэлігійнай каталіцкай, дзяржаўных польскай, расійскай і савецкай. І несправядліва і недакладна, бадай, ігнараваць, што пры гэтым беларуская культура ў нейкіх адносінах мела станоўчыя ўплывы. Аднак, без сумнення, такое гістарычнае становішча абумоўлівала своеасаблівы працэс развіцця літаратуры, вызначала свае канстанты ў тэмах, матывах, адпаведныя эстэтычныя падыходы.

Усё гэта выразна прасочваецца на змесце анталогіі, якую атрымлівае наш чытач. А канкрэтна: што пісьмовая паэзія ў дакладным сэнсе ўласціва беларускай літаратуры даўней, як рускай, дзе яе пачатак звязваюць з XVII стагоддзем; што ў беларускай літаратуры пры кантактах з польскай раней за рускую праяўляюцца рысы паэтыкі барока (звернем увагу на верш Андрэя Рымшы "На... гербы... Льва Сапегі", які змяшчае анталогія); гэтаксама і далейшы працэс развіцця паэзіі быў лагічным вынікам стану беларускага народа ў той ці іншы час. З сярэдзіны XVII да канца XVIII стагоддзя пад жорсткім уціскам паланізацыі і каталіцызацыі ўласна беларуская літаратура амаль што замірае. Пасля далучэння да Расіі (1772), а дакладней, з першых дзесяцігоддзяў XIX стагоддзя, заўважаецца адраджэнне літаратурнага працэсу: у першай палове XIX стагоддзя, напрыклад, з'яўляюцца парадыйна-сатырычныя паэмы "Тарас на Парнасе" і "Энеіда навыварат". З сярэдзіны XIX стагоддзя, верагодна, не без сувязі

(Заканчэнне на 7-й стар.).

# ОПЕРА, ЯКУЮ ЧАКАЛІ

### "КНЯЗЬ НАВАГРАДСКІ" АНДРЭЯ БАНДАРЭНКІ Ў ВЯЛІКІМ АКАДЭМІЧНЫМ ТЭАТРЫ БЕЛАРУСІ

Вытокі беларускай дзяржаўнасці, пачатак утварэння Вялікага Княства Літоўскага са сталіцай у Навагрудку; процістаянне паганскіх звычаяў ды новай веры -- праваслаўнай; драматызм чалавечых стасункаў на паваротах гісторыі; "кулуары ўлады", ахвярнасць, любоў...

Пагадзіцеся, багатую спажыву для роздуму дае новы твор, ажыццёўлены на сцэне Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі ў сёлетнім сезоне. Два гады рыхтавалася гэта прэм"ера. Два гады чакала наша грамадскасць выніку працы стваральнікаў "Князя Наваградскага" -- "найбольш беларускай эпічнай оперы", як вызначыў потым хтосьці з музыказнаўцаў. Яе першы паказ прайшоў з небывалым для нацыянальных музычна-тэатральных твораў аншлагам і гледацкім поспехам. А сярод спецыялістаў пачаліся зацікаўленыя і досыць гарачыя дыскусіі -- гэтак заўсёды бывае, калі ў мастацтве нараджаецца сапраўдная, сур"ёзная і неадназначная з"ява.

Ініцыятыва стварэння оперы належыць Міністэрству культуры Беларусі, адсюль зыходзілі і прапановы канкрэтнага складу творчай групы, а найперш, зразумела, -- кампазітара. Для Андрэя Бандарэнкі, аўтара маладога, але вядомага сваімі мастацкімі дасягненнямі і ў камернай музыцы, і асабліва ў харавой, "Князь Наваградскі" стаўся дэбютам у оперным жанры. Дэбютавала ў оперы і Вольга Іпатава -- вядомы і рознабаковы



(Заканчэнне на 7-й стар.).

## АНОНС

**З наступнага нумара мы пачынаем друкаваць нарыс Лідзіі САВІК, прысвечаны жыццю і вялікай навуковай працы Барыса КІТА. Апынуўшыся пасля вайны за межамі Бацькаўшчыны, ён унёс важкі ўклад у развіццё сусветнай касманаўтыкі, ніколі не забываў Беларусь, імкнуўся служыць ёй і быць карысным.**



## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ДА З'ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ*

### АСНОЎНЫ ДАКЛАД

**На пасяджэнні рэдакцыйнай камісіі рабочай группы па падрыхтоўцы першага З'езда беларусаў свету вызначана назва асноўнага даклада, які прагучыць на гэтым форуме, -- "Нацыянальная ідэя і адбудова беларускай дзяржаўнасці". Да ўдзелу ў яго напісанні запрошаны вядомыя дзеячы сучаснага беларускага адраджэння, у тым ліку нашы суайчыннікі з-за мяжы. Узначальвае камісію па падрыхтоўцы даклада сябра Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" доктар мастацтвазнаўства Анатоль Сабалеўскі.**

**Вызначаны таксама вядучыя "круглых сталоў", якія будуць дзейнічаць у рамках з'езда. Усяго іх плануецца чатыры -- "Беларуская дзяржаўнасць", "Беларуская гаспадарка і прадпрымальніцтва", "Беларуская культура", "Беларуская дыяспара". Мяркуецца, што сярод выніковых дакументаў будуць звароты да беларускага народа і ўрада рэспублікі.**

### МАРКІ, ВЫМПЕЛЫ, ВЫДАТКІ

**На чарговым пасяджэнні аргкамітэта першага З'езда беларусаў свету зацверджаны эскізы маркі і вымпелаў, якія плануецца выпусціць да гэтага форуму.**

**Паводле звестак БелаПАН, маркі будуць друкавацца ў Расіі тыражом некалькі соцень тысяч экземпляраў і будуць мець выяву Ефрасінні Полацкай на фоне зямнога шара. Спецгашэнне іх аргкамітэт збіраецца правесці ў дні з'езда беларусаў свету.**

**Агульныя ж выдаткі на правядзенне першага З'езда беларусаў свету складуць каля 90 мільёнаў рублёў. Пэўную суму на гэтыя мэты выдзеліць Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", 60 мільёнаў, магчыма, -- урад рэспублікі. Спадзяецца аргкамітэт і на дапамогу камерцыйных структур. Іх ахвяраванні прымаюцца на разліковы рахунак "Бацькаўшчыны" N 700307 код 795 у камерцыйным банку "Беларусь" горада Мінска.**

*СЕЛЕКЦЫЯ*



**На эксперыментальнай базе Палескай доследна-меліярацыйнай станцыі ў Лунінецкім раёне вырошчваюць элітныя сарты бульбы для гаспадарак вобласці. Атрыманы мерыстэмным метадам аздароўлены матэрыял, што паступае з Беларускага навукова-даследчага інстытута бульбаводства, тут размнажаюць для раяніравання. Лепш за іншых адаптуюцца сарты "аксаміт", "посвіт", "явар".**

**НА ЗДЫМКУ: у цяпліцы гаспадаркі загадчыца лабараторыі мікракланіраванага размнажэння бульбы Марыя МАЦЮШЭНКА (злева) і тэхнік-лабарант Любоў ЛОСІЧ.**

*З ВІЛЕНШЧЫНЫ*

### ПАД ПАГРОЗАЙ ЗАКРЫЦЦЯ

**Адзіная ў Літве беларуская вышэйшая школа -- аддзяленне беларускай мовы і літаратуры ў Віленскім педагагічным універсітэце -- дзейнічае ўжо два гады. Але сёлета новага набору студэнтаў не будзе. Так пастанавілі ў Міністэрстве культуры і асветы Літвы, якое фінансуе педуніверсітэт. Адсюль паступіла ўказанне беларускае аддзяленне закрыць, а для тых, хто хоча вучыцца па-беларуску, пакінуць спецыялізацыю "беларуская мова і літаратура" на рускім аддзяленні. Прычына называецца адна -- няхватка грошай. Сенат педуніверсітэта зацвердзіў рэкамендацыю міністэрства, а пытанне беларускага аддзялення пакінуў адкрытым: маўляў, калі самі знойдзеце грошы -- аддзяленне будзе.**

> *"Спад вытворчасці шагнуў за 20 працэнтаў, а аб эканоміі ніхто не думае, нарошчваем апарат: Камітэт па энергазберажэнню, Камітэт па каштоўных металах, Антыманапольны камітэт, Камітэт па каштоўных паперах, Камітэт па справах моладзі, Камітэт па архівах і справаводству, Камітэт па фармацэўтыі, Камітэт па сацыяльнай абароне ваеннаслужачых і г.д. і да т.п. Вось далёка не поўны пералік структур, створаных за апошні год, як быццам міністэрстваў мала. Расце піраміда бюракратыі на загрыўку ў рабацягі, і ўсім выдзяляюцца машыны, памяшканні, арганізуюцца замежныя камандзіроўкі. Бюджэту не хапае, таму што чыноўніку патрэбен хлеб з маслам, а прадпрыемствы задушаны падаткамі, на 1 рубель прадукцыі не ва ўсіх застаецца і 12 капеек, але гэта не бяда -- надрукуем. Значыць, інфляцыя, значыць, амартызацыя ператвараецца ў фікцыю, старэе вытворчасць, ідзе неканкурэнтаздольная прадукцыя".*
>
> *Віталь МАЛАШКА, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.*

*ЛІСТ НАСТАЎНІКАЎ*

### СПЫНІЦЬ АНТЫБЕЛАРУСКУЮ КАМПАНІЮ

**"Мы, як ніхто іншы, ведаем усю складанасць сітуацыі з роднай мовай. Ведаем і тое, што мы, беларусы, ніколі самохаць ад роднага не адмаўляліся. Гэта рознага кшталту прыблуды даводзілі нам, што мы нічога свайго [illegible] мелі: ні мовы, ні гісторыі, ні дзяржаўнасці. [illegible] досыць спяваць нам салодкія песні. Пра свае справы мы будзем гаварыць самі. І таму мы рашуча патрабуем спыніць ганебную антыбеларускую кампанію і выступленні супраць нашай беларускай мовы".**

**З лістом, адкуль узяты гэтыя словы, звярнуліся ў Вярхоўны Савет Беларусі слухачы к[illegible] павышэння кваліфікацыі настаўнікаў. Яны [illegible]рабуюць ад народных дэпутатаў абараніць беларускую мову ў Беларусі, лічачы яе адзінай дзяржаўнай.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

СТВОРАНЫ Дзяржаўны сакратарыят па справах тэрыторый, які дзейнічае ў структуры Савета Міністраў Беларусі. Яго задачы -- удасканаленне дзяржаўнага кіравання на рэспубліканскім і тэрытарыяльным узроўнях, каардынацыя дзейнасці галін і тэрыторый, распрацоўка і забеспячэнне выканання сацыяльна-эканамічных праграм

МІНСКІ цэнтр Харэ Крышна актыўна ўзяўся за пераклад ведычнай літаратуры на беларускую мову. У Швецыі выдадзена ў перакладзе з англійскай на беларускую кніга "Дасканалыя пытанні -- дасканалыя адказы". Гэта гутаркі і каментарыі заснавальніка Міжнароднага руху Свядомасці Крышны.

НА ТЭРМІНОВУЮ службу ў Беларускае войска сёлета трэба прызваць 16 400 юнакоў. З гэтай колькасці 11 700 -- ва ўзброеныя сілы, астатнія ў памежныя, унутраныя, чыгуначныя, у часці і падраздзяленні ўрадавай сувязі і грамадзянскай абароны. На сённяшні дзень каля 2,5 тысячы юнакоў на прызыўныя пункты не з"явіліся.

КАБ ВЫЖЫЦЬ ва ўмовах дзікага рынку, Магілёўскі тэатр драмы імя Дуніна-Марцінкевіча, што ў Бабруйску, вырашыў спалучыць мастацтва з камерцыяй. У будынку, дзе павінен панаваць толькі дух Мельпамены, адкрылася казіно. Здадзенае ў арэнду дзялкам ад ігральнага бізнесу памяшканне прыносіць штомесяц 200 тысяч рублёў.

НЯДАЎНА амаль усе газеты Мінска паведамілі пра цікавую прэм"еру ў тэатры імя Янкі Купалы -- спектакль "Дзе пісталет, мама?.." па п"есе амерыканскага драматурга Маршы Норман. Пасля заканчэння трэцяга прэм"ернага паказу спектакля артыстам апладзіравалі ў зале ... усяго 15 гледачоў.

ПАМЯТНЫМ знакам -- вялікім каменем з надпісам -- ушанавалі землякі заслугі Сцяпана Некрашэвіча.

Устаноўлены ён у вёсцы Данілаўка Светлагорскага раёна, на радзіме аднаго з заснавальнікаў Інбелкульта, рэпрэсіраванага ў 1937 годзе. Сёлета адзначаецца 110-годдзе з дня нараджэння акадэміка С.Некрашэвіча.

*ІМ НЕ ПАТРЭБНА НАША АДРАДЖЭННЕ*

# ЗВАРОТ

### МІНСКАЙ ГАРАДСКОЙ РАДЫ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ ДА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

У апошні час, напярэдадні чарговай XII (майскай) сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, на якой маюць быць разгледжанымі найважнейшыя пытанні аб прыняцці Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і аб усенародным рэферэндуме, якія ўжо ў бліжэйшы час павінны вызначыць галоўны накірунак развіцця нашай рэспублікі, а разам з ім -- і лёс беларускага народа, на старонках шматлікай афіцыйнай рускамоўнай і пракамуністычна настроенай прэсы і ў іншых сродках масавай інфармацыі, у афіцыйных вусных прамовах некаторых кіруючых асоб усё шырэй распаўсюджваюцца беспадстаўныя патрабаванні аб пераглядзе Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь з мэтай прыняцця ў якасці дзяржаўных дзвюх моў -- беларускай і рускай. Асабліва прыкра тое, што такія заяўленні гучаць з вуснаў асоб, надзеленых вышэйшай выканаўчай уладай і якія павінны былі б у першую чаргу клапаціцца аб выкананні дзяржаўных Законаў, прынятых вышэйшым органам заканадаўчай улады -- Вярхоўным Саветам, як гэта, напрыклад, мела месца з боку Старшыні Савета Міністраў сп. Кебіча В.Ф. падчас яго наведання Брэсцкай вобласці.

Трэба адзначыць, што найбольш свядомая частка нашага грамадства незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці, найбольш патрыятычна настроеныя людзі ў адносінах да сваёй Бацькаўшчыны добра разумеюць, што прыняцце дзяржаўнага двухмоўя самым дрэнным чынам адаб'ецца на стане роднай беларускай мовы, якая на сённяшні дзень знаходзіцца, на жаль, у вялікім заняпадзе (палітыка дэнацыяналізацыі і асіміляцыі беларускага народа на працягу доўгага часу не прайшла дарэмна), што ў рэшце рэшт прывядзе да яе поўнага выжывання і знікнення, як вынік -- да знікнення носьбіта гэтай мовы, аднаго з найстаражытнейшых славянскіх этнасаў -- беларускага, чаго ніколі не даруюць нам не толькі нашы нашчадкі, але і ўся міжнародная супольнасць. Глыбокая занепакоенасць прагрэсіўнай часткі нашага грамадства за лёс роднай мовы, лёс Айчыны гучыць у шматлікіх калектыўных афіцыйных зваротах у адрас Вярхоўнага Савета, у безлічы лістоў асобных грамадзян у газеты, на радыё.

Да якіх вынікаў такое стаўленне да беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь можа прывесці ў грамадстве, не могуць не ведаць і не разумець тыя, хто сёння штучна напружвае гэтае пытанне. Але, відаць, ім дзеля захавання сваёй улады, удушэння дэмакратычных прынцыпаў няцяжка паступіцца нават сваім сумленнем, ім непатрэбна наша Адраджэнне. Наадварот, яны толькі і чакаюць у складаных умовах эканамічнага жыцця паглыблення канфрантацыі ў грамадстве паміж прадстаўнікамі розных нацыянальнасцяў, паміж найбольш свядомай і несвядомай часткамі саміх беларусаў, раз'яднання людзей, дэстабілізацыі ўсяго грамадства, спекулюючы на моўным пытанні: з такім народам лягчэй справіцца, здзяйсняючы свае палітычныя амбіцыі.

У рэшце рэшт, прызнанне рускай мовы ў якасці дзяржаўнай у нашай краіне абразіла б людзей іншых нацыянальнасцяў у шматнацыянальнай Беларусі, згуртаваных у свае нацыянальныя саюзы, супольнасці -- палякаў, украінцаў, летувісаў і інш., якія ў такім выпадку па праву патрабавалі б прызнання і іх моў у якасці дзяржаўных.

У любой цывілізаванай краіне афіцыйнае парушэнне Закона аб мовах прыводзіць да вялікіх штрафаў, спагнанняў, а ў нас нават самі прадстаўнікі вышэйшых заканадаўчых і выканаўчых улад не толькі грэбуюць, але і беспакарана абражаюць, поўнасцю ігнаруючы Закон, дзяржаўную мову.

У такіх варунках вынясенне пытання аб дзяржаўным двухмоўі ў рэспубліцы, дзе нішто не пагражае і не перашкаджае развіццю іншых нацыянальных моў, традыцый і культур, на ўсенародны рэферэндум, як гэта часта прапануецца асобнымі людзьмі і структурамі, было б амаральным з боку дзяржаўных заканадаўчых органаў і здзекам з усяго беларускага народа.

Гарадская Рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, непакоячыся за лёс матчынай мовы, кіруючыся імкненнем спрыяць захаванню адзінства і стабільнасці ў грамадстве, абураючыся штучным распальваннем пытання аб дзяржаўным двухмоўі, звяртаецца да вас, паважаныя народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь, з заклікам, праявіўшы ўсю высокую чалавечую годнасць і палітычную мудрасць, спыніць гвалт над роднай мовай беларускага народа і замацаваць за ёю ў новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь статус адзінай дзяржаўнай мовы, а ад выканаўчых органаў улады патрабаваць безумоўнага і неадкладнага выканання Закона аб мовах на дзяржаўным узроўні.

НЕ ЗМАРНАВАЎ НІ АДНАГО ДНЯ

# ВАЛАДАР ДЗІЦЯЧЫХ СЭРЦАЎ







Ад даўняй сустрэчы з Янкам Маўрам, якая адбылася ў 1963 годзе, калі святкаваўся яго апошні прыжыццёвы юбілей, застаўся светлы і цёплы ўспамін. У кватэры пісьменніка, што знаходзілася ў доме па вуліцы Карла Маркса, было тлумна і мнагалюдна. Дзверы ў кабінет былі расчынены, і там з камерамі і асвятляльнай апаратурай гаспадарылі тэлевізіёншчыкі, раскладваючы на сталах і паліцах шматлікія кніжкі юбіляра, выдадзеныя на многіх мовах свету, фатаграфіі і асабістыя рэчы, што маглі б даць найбольш поўнае ўяўленне пра славутага дзіцячага апавядальніка. На канапе ў суседнім пакоі з мікрафонам напагатове сядзела карэспандэнт радыё. Я прымасцілася побач, разумеючы, што для чалавека ў такім паважным узросце ўсе гэтыя турботы і перагрузкі вельмі небяспечныя. Але самым цудоўным было тое, што юбіляр не губляў прысутнасці духу і не пераставаў усміхацца. Нарэшце, вызваліўшыся ад настойлівых рэпарцёраў, Янка Маўр жартаўліва сказаў:

-- Можа хоць вы паспачуваеце мне.

І я паспачувала: не стала доўга распытваць, а адказала на яго пытанні пра газету, пра нашых чытачоў, якім ён перадаў тады свае прывітанне.

А сёлета мы адзначылі 110-годдзе з дня нараджэння Янкі Маўра. Вядома, без яго. Але засталося яшчэ многа людзей, якія жылі побач з пісьменнікам, вывучалі яго творчасць, радаваліся яго добразычлівасці і мудрасці, захавалі ўдзячнасць за напісанае і пакінутае нашчадкам. Кнігі Янкі Маўра ўвайшлі ў залаты фонд беларускай літаратуры, сталі здабыткам сусветнай літаратуры. Яна класічная, але не сумная, кананічная, а сучасная і патрэбная кожнаму новаму маладому пакаленню.

У беларускую літаратуру пісьменнік прыйшоў з багатым запасам жыццёвых назіранняў і ведаў. Нарадзіўся Янка Маўр (Іван Міхайлавіч Фёдараў) у горадзе Лібаве ў Латвіі, куды яго бацька, беларускі рабочы, прыехаў у пошуках працы. Вывучыўшыся з вялікімі цяжкасцямі на настаўніка, працаваў у Літве, потым у вёсцы Бытча каля Барысава. Разам з Якубам Коласам удзельнічаў у нелегальным з'ездзе беларускіх настаўнікаў у 1906 годзе, за што быў звольнены з працы і прыцягнуты да суда. Толькі праз пяць гадоў удалося атрымаць пасаду настаўніка гісторыі і геаграфіі ў мінскай прыватнай школе.

Першая аповесць Янкі Маўра "Чалавек ідзе", аўтабіяграфічная, была апублікавана ў 1925 годзе, затым адна за адной з'яўляюцца аповесці "У краіне райскай птушкі", "Сын вады", раман "Амок", "Палескія рабінзоны", "Аповесць будучых дзён", "ТВТ", "Шлях з цемры", апавяданне "Слёзы Тубі"...

Пісьменнік стаў першаадкрывальнікам у асваенні новага для беларускай літаратуры прыгодніцкага жанру, твораў сацыяльных і ў той жа час глыбока рамантычных. Ён вядзе сваіх чытачоў у займальнае падарожжа па свеце, але заўсёды застаецца нацыянальным беларускім пісьменнікам. Гэтыя якасці цудоўных твораў зрабілі іх аўтара ўладаром дзіцячых сэрцаў, яго чыталі дзеці ва ўсе часы, чытаюць і цяпер на беларускай мове, якая заўсёды, на вялікі наш жаль, займала ў роднай Беларусі другое месца пасля рускай.

А што Янку Маўра чытаюць, я пераканалася сёлета на вечарыне ў Доме літаратара, куды прыйшлі вучні мінскіх школ, каб паслухаць успаміны пра любімага пісьменніка, сустрэцца з яго блізкімі. Была там наладжана і літаратурная віктарына па творах Янкі Маўра. І калі дзеці паспяхова адказвалі на пытанні, цяплела на сэрцы.

На сустрэчу ў Дом літаратара былі запрошаны выкладчыца БДУ і даследчыца творчасці Янкі Маўра Маргарыта Яфімава, пісьменнік Аляксей Слесарэнка, выканаўца ролі Мірона ў фільме "Палескія рабінзоны", пастаўленым ў 30-х гадах, а таксама ўнукі Янкі Маўра -- Марыя і Сяргей Міцкевічы, якія з'яўляюцца і ўнукамі Якуба Коласа, бо дружба паміж двума пісьменнікамі захавалася на ўсё жыццё, і дачка Янкі Маўра Наталля выйшла замуж за сына Якуба Коласа Міхася.

— Ён вельмі любіў нас, сваіх унукаў, -- успамінала Марыя Міхайлаўна, — ніколі не павучаў і не навязваў сваёй думкі. Быў чалавекам нетрадыцыйным, аптымістычна настроеным, здаваўся нам самым вясёлым і жыццярадасным. Ён вучыў нас разважаць, думаць самастойна. Выхоўваў толькі асабістым прыкладам.

Гэты цікавы і незвычайны пісьменнік пакінуў нам неацэнную спадчыну — свае творы і цёплыя ўспаміны тых, хто яго ведаў.

"Высокі, мажны ў сваёй паставе, з аблiччам мудрага дзеда-ўсяведа, ён ідзе, абапіраючыся на цяжкі сукаваты кій. Так, гэта ўжо стары чалавек, але хто ведаў яго, той заўсёды шанаваў у ім глыбокае адчуванне маладосці, радасці жыцця, -- пісаў пра Янку Маўра Васіль Вітка. -- Цікаўны і дапытлівы, нястомны шукальнік, ён не змарнаваў ні аднаго дня, каб не спазнаць нешта новае ў жыцці, не ўзбагаціць сваіх душэўных запасаў. Бо дзеля таго, каб сказаць нешта патрэбнае і карыснае людзям, трэба шмат ведаць".

Аб значнасці постаці пісьменніка, неўміручасці яго творчасці сведчыць і той факт, што па рашэнню ЮНЕСКА ў 1983 годзе 100-годдзе з дня нараджэння Янкі Маўра было шырока адзначана ва ўсім свеце.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

**Здымкі Янкі МАЎРА з архіва У. КРУКА.**



**Вечарына, прысвечаная 110-годдзю Янкі Маўра, прайшла ў Літаратурным музеі Якуба Коласа. Выдатны дзіцячы пісьменнік быў у прыязных стасунках з народным песняром Беларусі.**

**У трылогіі "На ростанях" Якуб Колас вывеў свайго калегу пад імем настаўніка Тадорыка. Пасля Вялікай Айчыннай вайны пісьменнікі яшчэ больш парадніліся -- сталі сватамі.**

**Пра Янку Маўра, вялікага і непаўторнага майстра слова, на вечарыне гаварылі літаратуразнаўцы Васіль Жураўлёў і Маргарыта Яфімава. Успамінамі пра сустрэчы з гэтым самабытным, мудрым чалавекам падзяліліся пісьменнік Мікола Татур, сын Якуба Коласа Даніла Міцкевіч, загадчык аддзела музея Іван Курбека. З асаблівай увагаю слухалі прысутныя выступленні сына Янкі Маўра, акадэміка Фёдара Фёдарава, і ўнучкі пісьменніка Марыі Міцкевіч.**

**Студэнты Белдзяржуніверсітэта прачыталі ўрыўкі з твораў Янкі Маўра. Сваё майстэрства ў канцы вечарыны прадэманстравалі ўдзельнікі фальклорнага ансамбля "Мінскі гармонік" пад кіраўніцтвам Івана Раманчука.**

Кастусь СЦЕПАНЮК.

**НА ЗДЫМКУ: Даніла МІЦКЕВІЧ, Марыя МІЦКЕВІЧ (унучка Я. Маўра), акадэмік Фёдар ФЁДАРАЎ (сын Я. Маўра), Іван КУРБЕКА.**

**Фота А. ЖОЎЦІКАВА.**

# БЕЛАЯ МУЗЫКА БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

з нацыянальна-адраджэнскімі рухамі ў іншых славянскіх асяродках, заяўляюць пра сябе такія паэты-беларусы, як Паўлюк Багрым, Уладзіслаў Сыракомля, Вінцэнт Каратынскі, Францішак Багушэвіч, Янка Лучына. Праўда, пасля паўстання 1863 года афіцыйна забараняецца пісаць па-беларуску, а паэту Багрыму, дарэчы, у пакаранне аддадзенаму ў салдаты на дваццаць пяць гадоў, зусім заціраецца творчы след. Напярэдадні рускай рэвалюцыі 1905 года, а таксама пасля яе, калі пачынае па швах трашчаць Расійская імперыя, на літаратурнай арэне з'яўляецца плеяда сапраўды вялікіх беларускіх паэтаў -- Янка Купала, Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Уладзімір Жылка і іншыя. З часам, калі Беларусь стала рэспублікай у новай саюзнай дзяржаве, колькасць прыкметных творцаў так нарастае, што ў нашым аглядзе іх не пералічыць. Тады літаратурны працэс Беларусі зведаў таксама жанравую трансфармацыю, уласна, падрыхтаваную яшчэ на пачатку XX стагоддзя: побач з традыцыйнымі лірычнай і ліра-эпічнай лініямі пашыраецца эпас, драма.

Гэтаксама, як некалі разам з польскай уключалася ў плыні еўрапейскага гуманізму, а потым барока, ад сярэдзіны XIX стагоддзя беларуская паэзія разам з рускай і астатнімі славянскімі арыентуецца на вытокі нацыянальнага, на фальклор. Несумненна, адукацыя, якую атрымлівалі беларускія інтэлігенты ў рускіх школах, умацоўвала грунт дзеля таго, каб вартасці блізкай рускай культуры ўспрымаліся шырэй. І ў гэтым выданні выбранай беларускай лірыкі ёсць прыклады, якія можна лічыць плёнымі судакрананнямі. Так, дарэчы, няцяжка звязаць узрушальны матыў бяздомнасці беларускай душы ў "Хмарках" (1894) Багушэвіча з шырока вядомым вершам Лермантава; сваю "Завіруху" Гарун стварае ў ключы сімвалісцкай паэзіі пачатку XX стагоддзя, павернуты, як і многія рускія сімвалісты, да творчай спадчыны рамантызму Аляксандра Пушкіна -- тут перадусім да пушкінскага верша "Нячысцік". Савецкія гісторыкі літаратуры ахвотна падкрэслівалі ўплыў, зроблены Маякоўскім на беларускіх паэтаў. Магчыма, нешта ёсць і такое. Аднак у гэтым выбары, які прапаноўваецца, можна адчуць хіба што нейкую роднасць з футурызмам толькі верша Багдановіча "Я хацеў бы спаткацца з вамі..." Рускага паэта Ясеніна можа нагадаць Уладзімір Дубоўка вершам "Пальцы жоўтых кляновых лістоў", аднак прычына падабенства тут, відаць, у такой самай натхнёнасці фальклорам, а не ў кантактным уплыве. І, нарэшце, мы б сказалі, што сувязь з польскай, кантакты з літаратурамі былога сацыялістычнага лагера, веданне чэшскай, славацкай і іншых -- нашай, мабыць, таксама, як славянскай і своеасаблівай па статусе ў лагеры сацыялізму -- стымулявала тое, што новая беларуская паэзія, нягледзячы на змаганні афіцыёзу супраць уплываў "гнілой буржуазнай" эстэтыкі, раней за рускую пачала шырэй ужываць верлібр, сучасную паэтыку, новыя прынцыпы кампазіцыйнай пабудовы лірычнага верша. Калі ісці ад звыклых нашых уяўленняў пра савецкую паэзію, дык у гэтай анталогіі проста неспадзявана вялікая колькасць твораў выразна мадэрнай лірыкі.

* * *

Зразумела, паэтыка застаецца важным элементам у творчых пошуках і адпаведна ў канкрэтных творах. Між тым, акалічнасць, што існуюць высокамастацкія творы, якія ўзніклі ў розных сістэмах, нагадвае: пытанне пра "мадэрную-немадэрную" паэтыку залішне абсалютызаваць нельга. Зацятая прыхільнасць да адной сістэмы, якой бы мадэрнай яна ні была, вельмі хутка і лёгка ператвараецца ў радыкалісцкі дагматызм, па сутнасці сваёй родансны дагматызму кансерватыўнаму. Таму, адзначыўшы моманты, якія адлюстроўваюць узаемадзеянне беларускай паэзіі з перадавымі плынямі еўрапейскай літаратуры ад XVI да XX стагоддзя, паспрабуем яшчэ высветліць, што ж, акрамя той ці іншай сістэмы, робіць беларускую паэзію, якая нарэшце дайшла да нас, такой цікавай, такой эстэтычна і гуманістычна каштоўнай.

Вершы, якія ўвайшлі ў гэтую анталогію, перакладаліся з меншымі, чым звычайна, высілкамі. Як вядома, пераўвасабляць лягчэй тады, калі перакладчыку блізкі па духу, інтарэсах альбо па манеры выказвання канкрэтны паэт. Але ж тут сабраны каля пяцідзесяці аўтараў з пяцістагоддзевай гісторыі паэтычнага слова. Так што, відаць, прычына ў нечым іншым. Бадай, лёгка перакладаюць яшчэ тады, калі не заглыбляюцца ў арыгіналы. Каб праверыць сябе, я звяртаўся да гісторыка-літаратурных крыніц, якіх, праўда, у нас вельмі мала, і прыйшоў да пераканання, што нічога з таго, што даследчыкі лічаць важным, быццам бы не прапускаў. Дзеякія вершы спрабаваў [illegible]тлумачыць яшчэ і яшчэ ра[illegible]днак і гэта не змяніла вынікаў папярэдняй працы...

Разам з тым сумненні і вопыт іх пераадолення дапамаглі мне больш выразна зафіксаваць адну істотную асаблівас[illegible]беларускай паэзіі. У гіс[illegible]ыкалітаратурных працах падкрэсліваецца, што важная адметнасць беларускага фальклору, на які, вядома, абапіраецца прыгожае пісьменства, -- прыкметная перавага лірычнай песні і амаль поўная адсутнасць эпічных жанраў. Вось як гісторыкі літаратуры вытлумачваюць тое, што на лірыку выключна арыентавалася беларускае мастацтва слова скрозь, ажно да савецкага перыяду. Што ж, няма падстаў сумнявацца ў значэнні фальклорнай традыцыі. Яна заўжды з'яўляецца вынікам менталітэту, глыбінных схільнасцяў народа-творцы. Але дамінантнасць лірычных кароткіх жанраў абумоўлівалася, магчыма, і грамадска-гістарычнымі акалічнасцямі, у якіх ішло фарміраванне беларускай літаратуры. Прынамсі тым, што ад часоў яднання з Польшчаю ў XVI стагоддзі і скрозь да 1919 года яна стваралася на мове, дзяржаўным уладам непажаданай, нават проста афіцыйна забароненай у адпаведныя перыяды. Паколькі гэта не магло не ўплываць на выдавецкія справы, зразумела, што прыхільнасць да жанраў, большых за лірычную песню, магла азначаць хіба што адмаўленне ад магчымасці, каб аўтарскі літаратурны твор наогул даходзіў да нейкага кола чытацкай публікі.

Між тым, паводле законаў раўнавагі ў прыродзе, доўгатэрміновая адсутнасць эпічных і драматычных жанраў вымагала кампенсацыі, і сталася так, што лепшыя ўзоры беларускага лірычнага верша змяшчаюць яшчэ і ў значнай меры таксама эпічны і драматычныя элементы. Вось чаму, а ў гэтым нашы чытачы лёгка пераканаюцца, амаль кожны з прапанаваных тут вершаў -- не толькі зафіксаванае перажыванне, але і данесеная імпрэсіўна падзея. Дзякуючы менавіта такому лірычна сублімаванаму зместу -- драматычнаму спалучэнню імпрэсіўнай падзеі з пачуццямі -- беларускім паэтам нібыта і непатрэбнай стала асаблівая педантычнасць у рытмічнай і гукавой арганізацыі сродкаў выказвання. Бадай, таму не толькі ў XVI ці ў XVII, але і ў строгім XIX стагоддзі, не толькі ў агульных межах сімвалісцкіх эксперыментаў з эўфоніяй, але і ў савецкі час, калі як узор вылучаецца пушкінскі класічны верш, іхнія творы заўжды звіняць вальнейшымі асанантнымі рыфмамі, белым (нерыфмаваным сілабатанічным), а таксама вольным вершам. Гэта, зразумела, не азначае, што ў іх менш рытму, менш музычнай дынамікі. Наадварот. Толькі адмаўленне чыста механічнага раней прывяло беларускіх паэтаў да семантычна-эмацыянальна інтэнсіўнейшай, а гэта значыць, што сучаснаму чалавеку бліжэйшай дынамікі, паскоранасці і варыятыўнай зменлівасці паэтычных сродкаў -- да той рытмічнай арганізацыі, якую ў XX стагоддзі пачне актыўна скарыстоўваць экспрэсіянізм. А якраз такая, зусім не выпадковая, разняволенасць беларускай лірыкі ў выяўленчых сродках пры моцным драматычным і эмацыйным насычэнні забяспечвае параўнальна большую манеўравую прастору для перакладчыцкіх трансфармацый, з дапамогаю якіх паўней можа быць перададзена аўтэнтычнае характва арыгіналаў. Вось, напэўна, чаму гэтыя вершы перакладаліся адносна лёгка.

Але ёсць у беларускай паэзіі яшчэ асаблівасць, якая робіць яе выключнай. Гэта надзвычай вялікая філасофска-эмацыйная кагерэнтнасць, трывалае спалучэнне думкі з пачуццём. Спрабуючы коратка ахарактарызаваць важнейшыя тэмы і матывы яе, мы ў першую чаргу павінны згадаць вось што: прага вызначыць сваё котлішча (прытулак душы і целу); слабасць чалавека перад законамі прыроды; людскі боль ад няпраўды (што ідзе ад прыроды, а можа і ад Бога, калі прадвызначаецца лёс, тое, што вынікае з рэлігійных супрацьстаянняў і з жорсткасці другіх людзей); мары і памкненні, каб тое нязведанае шчасце наблізіць, растваръючыся ў зменах, трансфармацыях і цыклах прыроднага жыцця, прычым гэта не пазбаўлена глыбіннай свядомасці, што ў чалавека адно надзейнае выйсце -- самаахвярнасць.

Такім чынам, растварэнне чалавека ў прыродзе можна разглядаць як сталы элемент канцэпцыі паэзіі. У нашай анталогіі гэта асабліва акрэслена і ўразліва перадаецца зместам верша Леапольда Родзевіча "Белая музыка". Паэзія -- "самалётны дыван асаблівы", вытканы "з сонечных косаў", "кудзелі нябеснае" і "водгулля славы дзяржаўнай, старой", з народным узорам беларускага Слуцка; яна аб'ядноўвае "ў хаўрус векавы" старажытнага славянскага Дажбога і беларускі "край грэчкі і руты"; яе гукі ўзнікаюць тады, калі рой матылькоў, узняўшыся ў блакіт, нібы краскі лятучыя, "чапаюць за струны пявучыя"; яна гуканне вясны і "водгук Прыходу".

Магчыма, якраз увасабленне зліцця чалавека з прыродаю і такое разуменне паэзіі — як белай музыкі — обумовіла тое, што ў беларускіх паэтаў адным з самых частых і, я б сказаў, самых моцных матываў становіцца вясна. Вясна як нараджэнне жыцця, як абнаўленне прыроды, абнаўленне поглядаў, абнаўленне колішняй славы, абнаўленне людзей, як адкрыццё прасторы ўсім жыццёвым магчымасцям... Вось чаму ў беларускай паэзіі чалавек абуджаецца, выходзіць з стану прыгнечанасці, калі "вясна" ўскалыхне "брэдзь цвятоў і песні салаўінай", калі адгукнецца, "грымне вясёлы выбух птушак, пладоў і расы". Бо чалавек гэты "ўеецца пад неба зорнае" і "вечнасць п'е глыткамі невялікімі" менавіта як "**паўдрэва** голае".

Уладзімір Караткевіч у эсэістычнай кнізе "Зямля пад белымі крыламі" прыводзіць тлумачэнне, паводле якога Беларусь атрымала сваю назву тады, калі агульная ўсходнеславянская дзяржава Русь Кіеўская папала пад уладу мангола-татараў з XIII стагоддзя, а яна змагла-такі адбіць наступы заваёўнікаў, засталася вольнай, гэта значыць "белай", "чыстай ад татараў". Такім чынам, Беларусь — Русь "белая", "вольная". І паэзія яе, на што мы звярталі ўвагу, як знітаванасць старажытнай дажбогаўскай культуры з "краем грэчкі і руты", — "белая музыка". Прычым, уласцівы ёй, на што мы таксама звярнулі ўвагу, не толькі белы, але і вольны верш.

Праўда, адзін з найвялікшых нацыянальных паэтаў, Янка Купала, на пачатку XX стагоддзя паказваў беларуса як зняволеную, забітую істоту, якой з усім народам трэба яшчэ дамагчыся, каб "людзьмі звацца". І на восьмым дзесяцігоддзі ўжо Васіль Зуёнак заўважае, як "у белым адчаі Зямля анямела". Таму ў "белай музыцы" беларускіх паэтаў набываюць значэнне яшчэ такія матывы, як зоры, зорнічкі, вятры, агні, вогнішча душы, маці і слёзы... Эстэтычная моц беларускай паэзіі залягае таксама ў парадаксальным спалучэнні волі як спрадвечнага кону і радаводнага ідэалу з рэчаіснасцю, якая чалавеку нязменна толькі абмяжоўвае гэтую волю — незалежна, справа тычыцца выбару агульнай экзістэнцыяльнай прасторы (апазіцыя "[illegible]ля — неба"), выбару зямн[illegible] дзяржаўнага (вызначэнне за тое ці іншае царства як умовы трываласці), выбару зямнога духоўнага (прыхільнасць да той ці іншай веры, адп[illegible]една, да той ці іншай ідэ[illegible]ii, зноў-такі як адзінай умо[illegible] трываласці), альбо справа тычыцца пошукаў чалавекам індывідуальнага шляху, заўжды вызначанага вышэйшымі прыроднымі ці грамадскімі сіламі ды законамі.

Кожны беларускі паэт нібыта заўжды нясе ўрывак трагічнага аповяду, які так узрушальна перадае Алесь Разанаў, калі азначае, што дарога, якая вядзе чалавека, паварочваецца папярок і становіцца расколінай, а расколіна тая пашыраецца, не дае перабрацца "на адрынуты бок жыцця". Можа прыйсці думка, што гэта азнака лёсу беларусаў. А дакладней, гэта агульны лёс чалавека, адзіна што ў выпадку беларусаў, паводле збегу гістарычных абставін, ён такі згушчаны, што і абрысы, і сутнасць заўважаюцца больш акрэслена.

Белая музыка беларускіх паэтаў -- спантанная, выключна эмацыянальная і адначасова мудрая вестка пра чалавека ў чалавецтве, пра чалавечнае ў чалавеку, чалавека ў прыродзе і прыроду чалавека. Таму яна універсальная і таму, я ўпэўнены, знойдзе шмат прыхільнікаў сярод нашых аматараў паэзіі. Сярод нашых асабліва, бо гэтулькі ж падабенства ў лёсах, агульнага ў гісторыі двух славянскіх народаў, што збліжае духоўныя памкненні, з якіх нараджаюцца аналагічныя працэсы ў культурным і літаратурным рухах. І ўсё гэта дае падставы меркаваць, што анталогія беларускай паэзіі будзе ўспрынята не толькі як інфармацыя пра замежную літаратуру. Яна дапоўніць нашу мазаіку, з дапамогай якой мы адрэкамендоўваемся і вытлумачваемся.

**Міадраг СІБІНАВІЧ.**

# ОПЕРА, ЯКУЮ ЧАКАЛІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

літаратар, знаўца гісторыі і прыхільніца ідэі нацыянальна-культурнага адраджэння. На аснове п"есы Леаніда Пракопчыка "Князь Наваградскі" яна стварыла лібрэта. Паяднаў дэбютантаў вопыт спрактыкаванага рэжысёра-пастаноўшчыка Сямёна Штэйна. Ну а потым далучыліся іншыя стваральнікі спектакля: музычны кіраўнік і дырыжор Мікалай Калядка, мастак-пастаноўшчык Дзмітрый Мохаў, пастаноўшчык танцаў Уладзімір Колесаў. І, вядома, выканаўцы.

Зразумела, пераказваць змест оперы — марны занятак. Опера, паводле класіка, — гэта драма, напісаная музыкай. А музыку лепей слухаць, чым пра яе чытаць. Тым больш, што багатая, глыбокая, шматпланавая, не заўсёды лёгкая для ўспрыняцця музычная драматургія А.Бандарэнкі развіваецца ў рэчышчы цікавай фабулы.

Тры дзеі оперы як тры старонкі жыцця галоўнага героя Войшалка, сына вялікага князя Міндоўга (абодва — праўдзівыя гістарычныя постаці). Спачатку Войшалк — ганарлівы й жорсткі княжыч, неўтаймоўны ў сваіх нялюдскіх прыхамацях і памкненнях. Прасветленасць, чалавечнасць, чысціня з"яўляюцца ў ягоным аблічы праз каханне да юнай пяшчотнай Руты. Але палітычныя інтрыгі бацькі ды мачахі абарочваюцца для Войшалка страшнай трагедыяй: бязвінную Руту спальваюць на рытуальным паганскім вогнішчы...

Страта кахання, здрада бацькі — князя Міндоўга, расчараванне ў паганскай веры апаноўваюць свядомасць Войшалка, і ў адчаі ён спрабуе адабраць у сябе жыццё. Выратаваны праваслаўным манахам Елісеем, ён прымае хрысціянскую веру і ўжо як манах Васіль спасцігае Божы свет і добрымі справамі служыць роднаму краю і свайму народу. Аднак няма ладу ў Наваградку пасля смерці князя Міндоўга. І людзі просяць Войшалка-Васіля вярнуцца на княства...

Мінае час, і манах-ваяр князь Наваградскі і задумваецца пра нязддзейсненае, і пакутуе ад таго, што не мае спадкаемца. "Зычлівец"-сусед знаходзіць для яго нявесту, якая вельмі нагадвае Руту, чый пяшчотны голас, светлы вобраз суправаджае Войшалка-Васіля на працягу ўсяго жыцця. Але... Адмова ад шлюбу каштуе князю-манаху жыцця.

Трагічны, неадназначны вобраз Войшалка, якому гісторыкі адводзяць галоўную ролю ў стварэнні Вялікага Княства Літоўскага, дзякуючы мастацкаму пераасэнсаванню амаль легендарных падзей далёкага XIII стагоддзя, збліжаецца з нашым часам. Адпавядае духоўным, маральным, філасофскім пошукам сучаснікаў, якія задумваюцца пра лёс чалавечы, пра ходу жыцця і свядома звяртаюцца да адрынутых некалі спрадвечных хрысціянскіх каштоўнасцей.

Праца над новай операй, аналагаў якой, бадай, не знойдзеш у рэпертуарным мінулым нашага increased опернага тэатра, пашырыла не толькі прафесійны далягляд, а і светапогляд артыстаў хору, занятых у спектаклі салістаў. Магутныя харавыя сцэны падрыхтаваны пад кіраўніцтвам хормайстраў Аляксея Кагадзеева, Ніны Ламановіч, Галіны Луцэвіч. Галоўныя партыі выконваюць Уладзімір Экнадзіёсаў, Аляксандр Тузлукоў, Мікалай Майсеенка, Віктар Скарабагатаў, Наталля Кастэнка, Наталля Руднева, Яраслаў Пятроў, Генадзь Чэпікаў і многія іншыя знаныя майстры ды моладзь тэатра.

Опера — вялікая калектыўная праца, і плён яе асабліва адметны, бо сярод шматлюднай "каманды" мінчукоў быў гродзенскі кампазітар, які, не маючы магчымасці штодня "прападаць" у тэатры, кантактаваць з аркестрам, як яго сталічныя калегі, дасягнуў усё ж высокага мастацкага выніку. У тэатр прыйшоў таленавіты самабытны аўтар — гэта адзначаюць нават самыя строгія крытыкі.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ.**

ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

# ЁН НАПІСАЎ "БАРЫНЮ"

У газеце "Минский листок" (сакавік 1896 года) быў апублікаваны невялікі артыкул, прысвечаны нашаму земляку, вядомаму кампазітару і музычнаму дзеячу Восіпу Казлоўскаму.

"У пачатку стагоддзя, -- гаварылася ў артыкуле, -- у С.-Пецярбургу карыстаўся шырокай вядомасцю невысокага росту стары з бялявымі з сівізной валасамі, якога часта сустракалі на вуліцах горада. Гэта быў вядомы музыкант В.Казлоўскі".

Паходзіў ён з гродзенскіх беларускіх дваран, вучыўся ў Варшаўскай кансерваторыі, а потым служыў арганістам.

У 1870 годзе па запрашэнню пераехаў у С.-Пецярбург, дзе кіраваў музычнай часткай прыдворнага аркестра, напісаў шэраг музычных п'ес для тэатральных прадстаўленняў, некалькі паланезаў, у прыватнасці, славуты "Гром перамогі, раздавайся, весяліся, храбры рос", напісаны на словы Г.Дзяржавіна.

У перыяд царствавання Кацярыны II Казлоўскі, займаючы высокую пасаду кіраўніка прыдворнага аркестра, а затым капельмайстра імператарскага тэатра, вызначаўся вялікімі дзівацтвамі. Ён хадзіў у сялянскім кажуху, любіў бываць у шынках, дзе слухаў ігру вандроўных музыкаў, народныя песні. Яго часта сустракалі на кірмашах з гуслямі ў руках, у натоўпе прыезджых сялян.

Казлоўскі напісаў мноства песень, якія сталі сапраўды народнымі. Найбольш вядомая з іх папулярная "Барыня" на словы Нелядзінскага-Мялецкага.

Першы раз "Сударыня-барыня" была выканана ў 1817 годзе тэатральным аркестрам на адным з пецярбургскіх маскарадаў. Мелодыя гэтай песні захапіла ўсіх прысутных і затым атрымала шырокае распаўсюджанне па ўсёй краіне, спявалася ў розных слаях грамадства і жывая сёння.

Памёр В. Казлоўскі ў глыбокай старасці і ў адпаведнасці з завяшчаннем пахаваны на сваёй радзіме, на Гродзеншчыне, у мястэчку Азёры.

**А. ПЯТРОВІЧ.**

АДКУЛЬ ШТО ПАЙШЛО

# НЯХВЁДАЎСКАЯ ВУЛІЦА Ў МАГІЛЁВЕ

Вуліца -- адзін з важнейшых элементаў гарадской структуры, своеасаблівая артэрыя, якая забяспечвае ягонае функцыяніраванне. Само разуменне вуліцы асэнсоўвалася мяшчанамі (жыхарамі месца-горада) як адзін с асноўных момантаў гарадской забудовы. У абмежаванай прасторы сярэднявечных градоў вуліца служыла і мяжой, што дзяліла асобныя сядзібы, і адначасна яна з"яўлялася грамадскай уласнасцю. Яны досыць інтэнсіўна выкарыстоўвалася. Яшчэ ў старажытнарускі час заканадаўства рэгулявала выкананне пэўных правіл утрымання гарадскіх маставых. Напрыклад, уладальнік сядзібы, насупраць якой знаходзіцца кавалак дарогі, павінен быў рамантаваць яе, а калі неабходна, рабіць новую.

Варта адзначыць, што месца знаходжання асноўных вуліц у Магілёве не мянялася стагоддзямі. Гэта было звязана як з устойлівасцю асноўных шляховых накірункаў, што, дарэчы, добра адбіліся на гарадской тапаніміцы (вул. Шклоўская, Віленская, Быхаўская), так і з недатыкальнасцю сядзібных межаў.

Праўда, у Магілёве вядомы выпадкі, калі ў першай палове XYII стагоддзя рабіліся гарадскія ўмацаванні, часам адбіраліся пэўныя пляцоўкі, што належалі магілёўцам. Але рабілася гэта згодна з спецыяльнай каралеўскай граматай, ды і то ў выключных выпадках. На прыкладзе Магілёва можна адзначыць яшчэ адзін цікавы момант у гарадской тапаграфіі: некаторыя вуліцы па розных прычынах не дажылі да нашага часу.

Вось так здарылася і з былой Няфёдаўскай ці Няхфёдаўскай вуліцай, якая злучала Спасаўскі манастыр (знаходзіўся на месцы будтрэста N 12) і Каралеўскую браму, што стаяла перад драмтэатрам. Сваю назву яна атрымала магчыма ад асабовага імя ці прозвішча Няфёд.

І сапрауды, калі звярнуцца да дакументаў па гісторыі Магілёва, то сустракаюцца падобныя прозвішчы. Напэўна самым знакамітым і паважаным магілёўцам быў Няфёд Іосіфавіч. Ён быў першым магілёўскім войтам. Гэта была вельмі значная пасада, якая прызначалася вялікім князем. У Магілёве чалавек на гэтую пасаду спачатку выбіраўся мяшчанамі, затым ужо зацвярджаўся вялікім князем. Таму, зразумела, факт абрання першым магілёўскім войтам менавіта гэтага чалавека сведчыць аб ягоным высокім рэйтынгу ў горадзе.

На карысць гэтага сведчыць і справаздача каралеўскага шляхціца Карыцкага аб выкананні даручэння па ўвядзенню ў Магілёве магдэбургскага права. У прыватнасці, там гаворыцца пра пляц вайтоўскі, каторы ляжыць у парнасе



(гарадскіх ...цаваннях) на вуліцы Няхвёдаўск... недалёка ад царквы св. Мікалая ... царквы святых Казьмы і Дзям"яна. Пляц гэты мяжуе з гародам пана Марціна Стравінскага і землямі, якія належалі мяшчанам магілёўскім Ваську Мілковічу Дробышу, Багдану Наўгародцу і Пятру Дойліду.

У сувязі з вышэйзгаданым нам падаецца цалкам магчымым, што вуліца абавязана сваёй назвай гэтаму чалавеку. Існавала гэтая гарадская артэрыя ў XYI -- першай палове XX стагоддзяў. Аб яе гісторыі распавядаюць шэраг разнастайных дакументаў і гарадскія планы XYIII -- пачатку XX стагоддзяў. У асноўным яны маюць урывачны і фрагментарны характар.

Крыху ўзняць заслону невядомасці над Няфёдаўскай вуліцай нам дапамаглі археалагічныя раскопкі. Падчас аварыйных археалагічных доследаў, што праводзіліся ўвосень 1989 года ў дварах дамоў NN 6, 8, 10 па вуліцы Ленінскай, нам пашанцавала знайсці кавалак данай вуліцы.

Пад двухметровым цяжарам зямлі знаходзілася драўляная маставая. Яна складалася з цэлых бярвенняў, даўжыня якіх ад 25 да 50 сантыметраў. Некаторыя бярвенні былі даволі моцна вытаптаны. Усяго было ўскрыта 72 бервяны, даўжыня якіх вагаецца ад 117 да 460 сантыметраў. Маставая была аднаградная і досыць добра захавалася ў насычаным арганікай слоі і магла быць музеефіцыравана.

На маставой пры яе зачыстцы і абкопванні было знойдзена вельмі шмат разнастайных рэчаў, што сведчыць аб даволі інтэнсіўным жыцці, якое віравала на гэтых бярвеннях. Сярод знаходак конскія і абутковыя падковы (XY--XYII стагоддзі), скураны абутак і кераміка гэтага часу. Асабліва варта адз... ыць унікальныя для Магілёва і ... русі наогул знаходкі: цудоўны двухслойны скураны пояс з прыгожым раслінна-геаметрычным малюнкам, паміж якім мацаваліся металічныя накладкі (зараз ён экспануецца ў Мірскім замку), прадметы ўзбраення: тыльная частка шлема, якая закрывала патыліцу, наканцоўе дзіды і некаторыя іншыя. Са знаходак, якія былі пад маставой, варта адзначыць берасцяны кошык-вярэньку XYI стагоддзя.

Гэтая і іншыя знаходкі сведчаць аб тым, што на вуліцы жылі таксама гарадскія майстры, якія ўваходзілі ў шматлікія староствы, цэхі. Апошнія з"яўляліся адначасна і гарадскімі вайсковымі адзінкамі, якія мелі сваю збраёўню і павінны былі падчас аблогі абараняць пэўны кавалак валу. Магчыма той, дзе падыходзіла вуліца (у раёне драмтэатра). Між іншым і сама маставая, відаць, была зроблена майстрамі цэху дойлідаў, які вядомы ў Магілёве з 1590 года. Зноў мы паспрабавалі запоўніць яшчэ малавядомую старонку гісторыі Магілёва на прыкладзе адной вуліцы. Назва апошняй, на жаль, знікла з твару горада, і аб тым, што яна існавала калісьці, па сутнасці ніхто не ведае. На нашу думку, падчас вяртання спрадвечных назоваў гарадскім вуліцам гэтая назва мае поўнае права ўваскрэснуць.

**Зміцер ЯЦКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ**: раскопкі на былой Няхвёдаўскай вуліцы.

# БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

## ПІРОГ З БУЛЬБЫ

Бульбу спячы, абабраць і размяць. Масла расцерці да пены, змяшаць з бульбай, дабавіць жаўткі, соль, цукар, соду, лімонную цэдру, сухары і смятану. Пасля гэтага ўліць узбітыя да пены бялкі. Атрыманую масу пакласці на добра змазаную, пасыпаную сухарамі бляху і паставіць у духоўку прыкладна на гадзіну.

На 4 порцыі 400 грамаў бульбы, 3 сталовыя лыжкі масла, 4 яйкі, 6 сталовых лыжак цукру, 4 сталовыя лыжкі паніровачных сухароў, 1/2 шклянкі смятаны, сода, лімонная цэдра, соль.

## САЛАТА З БУЛЬБЫ З ЗЯЛЕНІВАМ

Бульбу абабраць, адварыць і абсушыць. У гарачую бульбу пакласці дробна парэзанае зяленіва, расцёрты з соллю часнок, уліць алей і ўсё патаўчы. Дабавіць нарэзаныя кубікамі агуркі і перамяшаць. Атрыманай масе надаць форму батона, пакласці ў салатнік, паліць маянэзам і пасыпаць зверху дробна песечанай цыбуляй.

На 7 порцый 700 грамаў бульбы, 100 грамаў зялёнай цыбулі, 2 зубкі часнаку, 2 салёныя агуркі, 4 сталовыя лыжкі алею, 1 сталовая лыжка маянэзу, зяленіва, соль.

## СУП БУЛЬБЯНЫ ВОСТРЫ

Абабраную і адвараную бульбу астудзіць, нацерці на буйной тарцы. Падсмажыць на алеі цыбулю. Асобна падсмажыць свіное сала, нарэзанае кавалачкамі, бульбу і змяшаць з цыбуляй, дабавіўшы молаты перац і муку. Усё гэта пакласці ў каструлю з кіпячым гароднінным адварам ці вадой. Суп пасаліць і заправіць падсмажаным таматам-пастай.

На 4 порцыі 1 літр гародніннага адвару ці вады, 400 грамаў бульбы, 50 грамаў свінога сала, 1 цыбуліна, 1 сталовая лыжка мукі, 1 сталовая лыжка алею, 2 сталовыя лыжкі тамату-пасты, чырвоны перац, соль.

## ВАРЭНІКІ З БУЛЬБАЙ

З прасеянай мукі і яйка, змешанага з вадой, замясіць крутое цеста і пакінуць яго на 30--40 хвілін. Падрыхтаваць фарш: абабраную бульбу адварыць, працерці гарачай, пасаліць і змяшаць з падсмажанай цыбуляй. Гатовае цеста раскачаць у пласт таўшчынёй 2 міліметры, краі на шырыню 5--6 сантыметраў змазаць яйкам, разведзеным у вадзе. Пакласці радамі шарыкі з фаршу на адлегласці 3--4 сантыметры адзін ад аднаго. Край змазанай паласы цеста прыўзняць, накрыць ім фарш і выразаць варэнікі спецыяльнай формачкай. Падрыхтаваныя варэнікі апусціць у кіпячую падсоленую ваду і варыць да ўсплыцця іх на паверхню. Падаць з маслам ці смятанай.

На 4 порцыі 1 шклянка мукі, 1 яйка, 2 сталовыя лыжкі масла ці шклянка смятаны, 1/2 шклянкі цёплай вады, соль.


Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма".



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 5 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 751. Падпісана да друку 24.05.1993.